Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 12 750.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г. Мінск, вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 24 лютага 1998 г. № 17 Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Еўрапарламент супраць дэспатызму ў Беларусі

**Еўрапейскі парламент 16 лютага прыняў рэзалюцыю, у якой заявіў рэзкі пратэст наконт сістэматычнага парушэння правоў чалавека ў Беларусі.**

Еўрапарламент патрабуе ад уладаў Беларусі аднавіць у краіне дзеянне міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека і свабоды слова, а таксама вызваліць Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука, якія ўжо паўгода правялі за кратамі ў чаканні судовага разбіральніцтва.

Еўрапейскія парламентарыі чакаюць канкрэтных захадаў непасрэдна ад Аляксандра Лукашэнкі. Яны заклікаюць яго спыніць пераслед журналістаў, апазіцыйных палітыкаў і грамадскіх дзеячаў. У сваёй рэзалюцыі парламентарыі падкрэсліваюць, што *«ніякага далейшага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам не будзе, пакуль беларускія ўлады не пачнуць паважаць правы чалавека, а беларускі ўрад не пачне праводзіць дэмакратычныя рэформы»*.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## ЦРУ памылілася?

**Беларускія ўлады абвяргаюць інфармацыю пра падрыхтоўку сакрэтнага ваенна-тэхнічнага пагаднення з Іранам.**

Беларускія афіцыйныя асобы адмаўляюць, што падчас візіту беларускага прэзідэнта ў Іран, які мае быць 7 сакавіка, плануецца падпісаць пагадненне аб пастаўцы гэтай краіне з Беларусі рухавікоў і запчастак да танкаў.

Нагадаем, што ўпершыню інфармацыя пра магчымае падпісанне сакрэтнага беларуска-іранскага пагаднення была апублікавана ў газеце *The Washington Times* за 17 лютага са спасылкай на ЦРУ.

Намеснік міністра замежных справаў Беларусі Ніна Мазай абвергла паведамленне, апублікаванае амерыканскай газетай. Ускосна пацвердзіў яе словы і начальнік галоўнага штаба Узброеных сіл Беларусі Міхаіл Казлоў. Ён адзначыў, што колькасць узбраенняў і тэхнікі, што маюцца ў Беларусі, ніжэй за дапушчальны ўзровень, вызначаны Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, а таму прадаваць рэспубліцы няма чаго.

*БелаПАН*

*Чакаецца, што сёння будзе вынесены прысуд Вадзіму Лабковічу і Аляксею Шыдлоўскаму*

# За палітыку – у калонію?

**Двума гадамі калоніі просіць пракурор пакараць Аляксея Шыдлоўскага «за надпісы» на сценах. Вадзіму Лабковічу прапануецца даць той жа тэрмін, але ўмоўна.**



*Лабковіч і Шыдлоўскі правялі за кратамі ўжо 6 месяцаў.*

Зараз чарга за судовай калегіяй. Не выключана, што ўжо сёння лёс актывістаў Маладога Фронту, якіх абвінавачваюць у размалёўванні Стоўбцаў антыпрэзідэнцкімі лозунгамі, можа быць вырашаны.

Пракурор Дзмітрый Цімафееў, выступаючы ўчора ў судзе, заявіў, што лічыць «злачынства» Шыдлоўскага і Лабковіча даказаным і кваліфікуе яго як наўмыснае злоснае хуліганства. Каб даказаць «цынізм» у дзеяннях юнакоў, ім прыпісваецца нават аўтарства свастыкі, якую знайшлі на адным са стаўбцоўскіх будынкаў.

Пасля пракурора выступілі адвакаты і грамадскія абаронцы. Яны падкрэслілі два асноўныя моманты: нельга кваліфікаваць дзеянні Шыдлоўскага і Лабковіча як злоснае хуліганства, а таму хлопцы павінны несці адміністратыўную адказнасць, а не крымінальную. Другі момант — трэба ўлічваць матывы ўчынку хлопцаў. Магчымасці моладзі выказваць свае палітычныя погляды абмежаваныя ўладамі, даводзілі суду абаронцы. Сотні юнакоў толькі ў мінулым годзе былі пакараныя штрафамі, арыштамі, збітыя, выключаныя з ВНУ за ўдзел у мітынгах, пікетах ды іншых акцыях палітычнага пратэсту. Прысуды выносіліся як на канвееры, грунтуючыся на трафарэтных паказаннях міліцыі — і гэта таксама падарвала давер моладзі да ўладаў. Як вынік — акцыі пратэсту, кшталту той, што адбылася ў Стоўбцах. Гэтыя аргументы, аднак, разбіваць абароне асабліва не давалі. Суддзя Уладзімір Лаўроў жорстка прыпыняў абаронцаў, калі яны ад тэмы «хуліганства» пераходзілі да палітыкі.

Апошняе слова Аляксея Шыдлоўскага было кароткім. Ён папрасіў прабачэння ў бацькоў за тое, што даставіў ім столькі хваляванняў, а таксама выбачаўся перад камунальнымі службамі роднага горада за турботы па замаляванні надпісаў. Адносна магчымай турмы ён сказаў: «Гэта будзе вельмі неміласэрна». Сёння магчымасць выступіць будзе прадастаўлена і 16-гадоваму Вадзіму Лабковічу. Потым слова застанецца толькі за суддзёй.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**Тры маладыя апазіцыянеры былі схопленыя ўчора міліцыянтамі ў цэнтры Мінска. Іх абвінавацілі ў незаконным пікетаванні абласнога суда, дзе праходзіць працэс над Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам.**

Затрыманых членаў Маладога Фронту Максіма Кашынскага, Зміцера Каспяровіча і іхняга непаўналетняга сябра некалькі гадзінаў трымалі ў міліцэйскім пастарунку, дзе на іх склалі адпаведныя пратаколы, а пасля адпусцілі. Уся віна малады хлопцаў толькі ў тым, што яны, заклаўшы рукі за галаву, некалькі разоў прайшліся па ганку судовага будынка. Намеснік начальніка Ленінскага райаддзела міліцыі Віктар Патаповіч, падначаленыя якога затрымлівалі апазіцыянераў, заявіў нашаму карэспандэнту, што гэтыя маладыя людзі парушылі закон аб мітынгах, дэманстрацыях і пікетаванні і павінны несці за гэта адказнасць. Відаць, падпалкоўнік Патаповіч дрэнна ведае законы, за выкананнем якіх ён павінен сачыць. Хадзіць па вуліцы з закладзенымі за галаву рукамі, як і трымаць рукі, напрыклад, у кішэнях штаноў беларускае заканадаўства пакуль дазваляе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Клімаву прад'явілі абвінавачванне

**У пятніцу дэпутату і прадпрымальніку Андрэю Клімаву, арыштаванаму 11 лютага, нарэшце прад'яўленае абвінавачванне.**



*На здымку (з архіва): Андрэй Клімаў сярод калег-дэпутатаў.*

Як і чакалася, Клімава абвінавацілі па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці і крадзеж у асабліва буйных памерах.

Адвакат дэпутата Вера Страмкоўская, якая была прапанавана Клімаву Беларускім Хельсінкскім камітэтам, сказала, што бачыць *«добрыя перспектывы для поспеху нашага боку ў гэтай справе»*. Адвакат паведаміла, што сёння яна збіраецца падаць следчаму Салькову хадайніцтва аб змяненні Клімаву меры стрымання. У выпадку, калі следчы яго адхіліць, адвакат будзе звяртацца ў суд. Хадайніцтва падмацаванае заявамі працоўнага калектыву фірмы Клімава, яго суседзяў, а таксама Беларускага Хельсінкскага камітэта, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, прэзідыума Вярхоўнага Савета і спецыяльнай камісіі на чале з Віктарам Ганчаром, у якой Клімаў актыўна працаваў.

Дэпутат Ганчар назваў справу Клімава чыста палітычнай. Па яго словах, *«ціск на членаў спецыяльнай камісіі мае спланаваны і сістэмны характар»*. *«Пікі гэтага ціску прыпадаюць на перыяды найбольшай выніковасці ў дзейнасці камісіі, — сказаў Ганчар. — Звярніце ўвагу, што Клімава арыштавалі пасля таго, як камісія прызнала падрыхтаванае ёю заключэнне дастатковым для пачатку працэдуры імпічмента Лукашэнку»*.

Пасля спаткання са сваёй маці, якое адбылося ў чацвер, Клімаў спыніў галадоўку, якую трымаў 8 сутак. Па словах яго жонкі Таццяны, арыштанта штодня наведвае турэмны лекар, стан здароўя Андрэя цяпер небяспекі не выклікае. А.Клімаў па-ранейшаму адмаўляецца даваць якія б там ні было паказанні, матывуючы гэта тым, што яго дэпутацкая недатыкальнасць парушаная антыканстытуцыйным чынам.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Трагічная смерць героя

**Дзень абаронцы Айчыны трагічна скончыўся для двух герояў Савецкага Саюза.**

У Доме афіцэраў міністр абароны Аляксандр Чумакоў наладзіў прыём для 28 герояў, якія пражываюць у Мінску. Ветэранам уручылі памятныя медалі, павіншавалі са святам, а дахаты яны вымушаныя былі дабірацца на грамадскім транспарце. Героі-палкоўнікі Пётр Салаўёў і Аляксандр Барданаў спачатку правялі дадому свайго сябра, а потым на «сваіх дваіх» пайшлі ў бок свайго дома. На Лагойскім тракце а 20-й гадзіне іх збіў аўтамабіль. 76-гадовы П.Салаўёў загінуў на месцы, а 74-гадовы А.Барданаў у цяжкім стане быў дастаўлены ў 6-ю клінічную бальніцу.

Кажуць, што міністр А.Чумакоў вельмі не хацеў, каб інфармацыя пра няшчасны выпадак трапіла ў прэсу, але няўжо ў міністэрства абароны не знайшлося пару аўтамабіляў, каб развезці герояў па дамах?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## У «Беларусьнафце» шукаюць злодзеяў

**Супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Рэчыцкага райаддзела ўнутраных справаў узбуджана крымінальная справа ў дачыненні групы службовых асобаў вытворчага аб'яднання «Беларусьнафта».**

Чыноўнікаў абвінавачваюць у крадзяжы матэрыяльных каштоўнасцяў і грошай у асабліва буйных памерах, а таксама ў хабарніцтве. Па гэтай справе ўжо арыштаваныя тры чалавекі.

*БелаПАН*

## Два літры малака – у адны рукі

**Менавіта так мусяць цяпер гандляваць малочнымі прадуктамі ўсе крамы Віцебска.**

Віцебскі гарвыканкам устанавіў у горадзе нормы водпуску малочных прадуктаў, абавязковыя не толькі для дзяржаўных магазінаў, але і для гандлёвых прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці.

Да 1 траўня ні адзін прыватны камерсант не зможа прадаць аднаму пакупніку болей двух літраў малака, літра кефіру, паўкілаграма тварагу ці паўкілаграма смятаны. Нават марожанае, на думку гарвыканкама, з'яўляецца стратэгічным прадуктам: больш за 1 кілаграм марожанага ў Віцебску аднаму чалавеку не прададуць.

Тым часам у незалежным прафсаюзе прыватных камерсантаў Віцебска падлічылі, што ў выніку «рынкачага сацыялізму» абласны бюджэт ужо недалічыўся 130 мільярдаў падатковых рублёў, не ўплачаных з-за вымушаных прастояў і забастовак.

*БелаПАН*

# Алмазаў з Расіі не дачакаліся

**Магчыма, што ў Беларусі будуць апрацоўваць афрыканскія і аўстралійскія алмазы.**

*«Калі на працягу 1998 года не будзе вырашана праблема ўзаемаадносінаў з Расіяй па закупцы алмазнай сыравіны, гомельскае прадпрыемства «Крышталь» больш не будзе мець патрэбы ў паслугах Расіі, таму што выйдзе на афрыканскі і аўстралійскі рынкі»,* — мяркуе Аляксандр Старавойтаў, генеральны дырэктар Гомельскага вытворчага аб'яднання «Крышталь».

«Крышталь» — адзінае прадпрыемства ў краіне, якое апрацоўвае алмазы. Зараз ВА «Крышталь» працуе ў асноўным на расійскай сыравіне, але ў шэрагу выпадкаў прадпрыемства звярталася па дапамогу да бельгійскіх і германскіх пасрэднікаў.

Па словах дырэктара ВА «Крышталь», прадпрыемства ўжо актыўна распрацоўвае магчымасць атрымання алмазнай сыравіны з Афрыкі і Аўстраліі. Старавойтаў падкрэсліў, што ім вельмі б не хацелася разрываць адносіны з Расіяй, але, як гаспадарнікі, яны вымушаныя будуць гэта зрабіць.

*БелаПАН*

# Не ідуць на біржу працы

**Колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі знізілася.**

На канец студзеня 1998 года ў дзяржаўных службах занятасці на ўліку стаяла 125,5 тысячы беспрацоўных — 2,8 працэнта ад агульнай колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва краіны.

У студзені дапамогу па беспрацоўі атрымлівалі больш за 50 тысячаў чалавек, а сярэдні памер дапамогі склаў 268,9 тысячы рублёў.

*БелаПАН*

# Сто тысяч чалавек у лесе

**У мінулую нядзелю ў Гродне адбылося свята зімы. Па ацэнках арганізатараў, на яго сабралася каля 100 тысячаў чалавек — гэта трэцяя частка насельніцтва.**

Мерапрыемства праводзілася ў лесапарку, каля ракі Нёман. Пад лозунгам «Усёй сям'ёй на сцежку здароўя» частка гараджан удзельнічала ў спартовых спаборніцтвах. Аднак для большасці людзей гэта была магчымасць падыхаць лясным паветрам, а таксама расслабіцца пры дапамозе алкаголю. Гарэлка на свяце прынцыпова не прадавалася, затое можна было купіць любы іншы алкагольны напой. Па ацэнках міліцыі, такой масавай колькасці п'яных у горадзе дагэтуль яшчэ не было. Аднак сур'ёзных інцыдэнтаў у лесапарку не здарылася, што можна растлумачыць уплывам суседняй Польшчы, дзе на падобных мерапрыемствах таксама нямала п'юць, але не б'юцца.

Са свята ў выцвярэзнік было дастаўлена 10 чалавек, якія ўжо ляжалі на зямлі. Сярод іх была адна жанчына. Усяго за гэты дзень у выцвярэзніку пабываў 21 кліент, што ў два разы больш, чым звычайна.

**С.А.**

# Цыганскі Граф — лаўрэат

**У Гомелі прайшоў конкурс мастацкай самадзейнасці сярод цыганскіх дзяцей.**

Сваё здольнасці прадэманстравалі 32 юныя цыганскія таленты, у асноўным навучэнцы сярэдніх школаў абласнога цэнтра. Пераможцам стаў 17-гадовы выканаўца цыганскай песні Граф Канстанцінаў.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

# Беспрацоўны Занька бароніць бізнесмена Клімава

**Паўтара мільёна рублёў штрафу атрымаў жыхар райцэнтра Ганцавічы Мікола Занька за сваю акцыю салідарнасці з арыштаваным дэпутатам Андрэем Клімавым.**

Здавалася, вядомы ў Ганцавічах актывіст БНФ Мікола Занька знайшоў юрыдычна бездакорны шлях, каб выказаць падтрымку арыштаванаму дэпутату. Занька ўсяго толькі расклеіваў у дазволеных месцах копіі ліста, які дэпутат Клімаў збіраўся накіраваць раённым пракурорам, начальнікам РАУС ды іншым кіраўнікам. Тэкст сваёй «улёткі» Занька ўзяў з нашай газеты (ліст Клімава мы апублікавалі 18 лютага). Цытуючы ліст дэпутата, сп.Занька рабіў спасылку на газету і таму быў упэўнены, што гэта ўратуе яго ад рэпрэсіяў. Але актывіст БНФ яўна пераацаніў сваю «недатыкальнасць». Калі ў мінулы чацвер ён клеіў аркуш з тэкстам ліста Клімава на дошку аб'яваў каля пошты, побач з'явіўся міліцыянт Аляксандр Савіч і запатрабаваў «улёт-ку» зняць. Занька адмовіўся. Тады міліцыянт загадаў ісці з ім у аддзяленне. Актывіст БНФ і тут праявіў нязгоду з прадстаўніком улады. Прыйшлося выклікаць «варанок». Вынікам стаў пратакол аб непадпарадкаванні міліцыі і штраф у 1,5 мільёна рублёў. Пэўна, гэтыя грошы з беспрацоўнага М.Занькі, які атрымлівае сацыяльную дапамогу ў прамеры ўсяго 250 тысячаў рублёў штомесяц, будуць спаганяць доўга.

Дарэчы, М.Занька не ў першы раз становіцца на абарону пацярпелых ад улады. У лістападзе мінулага года ён выйшаў з плакатам на плошчу ў Ганцавічах і абвясціў галадоўку ў знак пратэсту супраць закрыцця СВАБОДЫ. Нават атрымаўшы 10 сутак арышту, Занька не спыніў сваю галадоўку — есці ён пачаў толькі, калі выйшаў на волю.

Здольнасць даводзіць пачатую справу да канца праявіў М.Занька і цяпер. Ужо атрымаўшы паўтарамільённы штраф, актывіст БНФ так «дастаў» пытаннямі суддзю Мяшковіча, што выцягнуў ад яго наступны тлумачэнні: паколькі інфармацыя пра ліст дэпутата Клімава не з'яўляецца «крамольнай», ён, Занька, мае права распаўсюджваць яе ў спецыяльна вызначаных для прыватных аб'яваў месцах. Атрымаўшы гэты адказ, Мікола Занька, не хаваючыся, расклеіў у горадзе яшчэ некалькі сваіх улётак. Міліцыянты толькі моўчкі назіралі за дзеяннямі ўпартага апазіцыянера.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# У тэатры — пра калгасы

**4—5 сакавіка Аляксандр Лукашэнка плануе наведаць Гродна. Гэты візіт адкладваўся некалькі разоў.**

У Гродне прэзідэнт возьме ўдзел у рэспубліканскай аграпрамысловай нарадзе. Яе ўдзельнікі пабываюць у калгасах Гродзенскага і суседняга Берастовіцкага раёнаў, агледзець выставу сельгаспрадукцыі і тэхнікі. Затым калгасна-саўгасная эліта збярэцца ў вялікай зале драматычнага тэатра, каб паслухаць даклад Лукашэнкі.

Прадугледжваецца таксама «спартовая частка» візіту прэзідэнта. Хутчэй за ўсё А.Лукашэнка наведае лёдавы палац, дзе трэніруецца хакейная каманда «Нёман». Гэтае збудаванне, якое пачалі ўзводзіць 10 гадоў таму, ніяк не могуць завяршыць. Нядаўна палац наведаў начальнік прэзідэнцкай ахоўвы палкоўнік Бародзін, які па сумяшчэнні з'яўляецца прэзідэнтам хакейнай федэрацыі. Цяпер у мясцовых уладаў з'явіўся рэальны шанц папрасіць грошы на заканчэнне будоўлі ў самога прэзідэнта.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Вашингтон о правах

**Посольство Соединенных Штатов Америки передало белорусским властям Доклад Госдепартамента США о положении с правами человека в Беларуси в 1997 г. Такие аналитические доклады правительство США выпускает ежегодно практически по каждой стране мира. Объем нашей газеты не позволяет полностью опубликовать этот документ, поэтому мы вынуждены были значительно сократить доклад.**

Система государственного устройства Беларуси построена таким образом, что почти все властные полномочия в стране принадлежат президенту. С момента избрания на пост президента в июле 1994 года Александр Лукашенко постепенно сосредоточил в своих руках почти всю власть в стране. Он провел ноябрьский референдум 1996 года с целью внесения поправок в Конституцию 1994 года, которые расширяли президентские полномочия и продлевали срок его пребывания на посту. Президент проигнорировал решение Конституционного суда, которое гласило, что Конституция не может быть изменена посредством референдума, и воплотил положения референдума в жизнь. Результатом действий президента явилось то, что правительство и политическая система страны основывается на редакции Конституции, принятой в ноябре 1996 года **неконституционным путем**. Большая часть мирового сообщества подвергла критике результаты порочного референдума и признала их недействительными, так как референдум нарушает основные демократические принципы. Большая часть мирового сообщества **не признает легитимность Конституции 1996 года и новых органов законодательной власти**.

Несмотря на то, что Конституция 1996 года предусматривает разделение власти на исполнительную, законодательную и судебную ветви, она не обеспечивает адекватной системы сдержек и противовесов. В результате, почти вся власть сосредоточена в руках президента. Ссылаясь на результаты референдума, согласно которым был образован двухпалатный парламент, президент Лукашенко заставил некоторых законодателей покинуть легитимный парламент, который он распустил в ноябре 1996 года. Ныне действующий законодательный орган не был напрямую избран, а был образован из остатков предыдущего парламента посредством объединения добровольцев, президентских назначенцев и выборов в местных советах.

Комитет государственной безопасности (КГБ) и Министерство внутренних дел (МВД), оба подотчетные президенту, продолжали оставаться основными органами по осуществлению закона и выполнению полицейских функций. Под непосредственным контролем президента Лукашенко Служба охраны президента, первоначально созданная для охраны высших государственных чиновников, продолжала действовать против политических противников президента без какого-либо контроля со стороны судебной и законодательной властей. Сотрудники органов безопасности совершили многочисленные нарушения прав человека.

Силы безопасности регулярно избивают задержанных и заключенных. Жестокая дедовщина в вооруженных силах ослабла, но еще полностью не искоренена. Условия содержания в местах лишения свободы неудовлетворительны. Службы безопасности произвольно арестовывают и задерживают граждан.



*А.Лукашенко: «В Беларуси демократии больше, чем во Франции».*

Органы государственной безопасности нарушали право граждан на частную жизнь и вели тщательное наблюдение за деятельностью активистов оппозиции и других слоев населения. Ограничения свободы прессы, слова, права на мирные собрания и объединения ужесточились. Правительство не соблюдало свободу ассоциаций. Подразделения МВД использовали силу при разгоне политических демонстраций и проводили массовые аресты.

Конституция 1996 г. гарантирует неприкосновенность личности и, в частности, запрещает пытки, равно как и жестокое, бесчеловечное и унижающее человеческое достоинство наказание. Однако милиция и тюремная администрация **регулярно избивают задержанных**. Наблюдатели за соблюдением прав человека располагают достоверной информацией, согласно которой следователи добиваются признания у заключенных посредством использования физического и психологического давления. Несмотря на незаконность их действий, правительство редко — если вообще — наказывает лиц, совершающих такие нарушения.

К концу года имелись **сотни задержанных по политическим мотивам**, большинство из которых были мирными участниками антиправительственных демонстраций. Их удерживали от нескольких часов до нескольких дней. Сотрудники милиции также **задерживали журналистов**. Так, весной, например, неопознанные люди в штатском, работающие на органы государственной безопасности, хватали участников антиправительственных демонстраций. Есть явные свидетельства того, что офицеры, которые предположительно работали на органы безопасности, внедрившись в ряды демонстрантов, провоцировали различного рода инциденты, которые заканчивались столкновениями с силами безопасности. Затем силы безопасности получали сигналы, указывающие на демонстрантов, за которыми необходимо было проследовать и арестовать дома.

Иногда органы безопасности в превентивных целях арестовывали организаторов и граждан, которые рассматривались как потенциальные участники, до демонстраций, даже тех, которые были разрешены властями. 13 февраля сотрудниками милиции был задержан член молодежной организации БНФ Виталий Умрейко, который был приговорен к 5 дням заключения в тюрьме предположительно за отказ платить штраф за ранее совершенное правонарушение. Согласно имеющейся информации, милиционеры обещали его отпустить, если он пообещает убедить участников антигосударственной демонстрации, которая была намечена на следующий день, разойтись.

2 апреля милиция с применением силы задержала по дороге на выставку бывшего председателя Верховного Совета Станислава Шушкевича, видимо, потому, что сотрудники, очевидно, ошибочно подумали, что он едет принять участие в проходившей в то время в городе демонстрации.

В мае милиция задержала 2-х учащихся Белорусского гуманитарного лицея, которые случайно оказались в том месте, где было запланировано проведение несанкционированного политического митинга. Согласно полученным сведениям, сотрудники милиции пытались заставить учащихся подписать документ, подтверждающий их участие в несанкционированной демонстрации.

После демонстраций многим задержанным милицией демонстрантам не предоставлялась возможность связаться с внешним миром. Сотрудники органов внутренних дел не позволяли задержанным во время демонстраций гражданам, среди которых было много подростков, сообщать их семьям о своем местонахождении.

Кроме сотен участников антиправительственных протестов, которые задерживались на срок от нескольких часов до нескольких дней, несколько известных лиц, задержанных по политическим мотивам, находились под арестом до 10 месяцев. В июне 1997 года поэт Славомир Адамович, задержанный в 1996 году по обвинению в подстрекательстве к террористическому акту в связи с публикацией его стихотворения «Убей Президента», был приговорен к 10 месяцам тюремного заключения. Суд постановил, что стихотворение не предназначалось для подстрекательства к совершению террористического акта, но в тоже время счел его оскорбительным по отношению к высшему должностному лицу государства. Адамович был отпущен после того, как суд постановил, что 10 месяцев, проведенных поэтом под следствием, засчитываются ему в срок наказания.

В августе в городе Столбцы сотрудниками милиции были задержаны учащиеся Алексей Шидловский (19 лет) и Вадим Лабкович (16 лет). Оба они являлись членами молодежной организации оппозиционного Белорусского Народного Фронта и были обвинены в «злостном хулиганстве», которое заключалось в том, что они писали на стенах лозунги «Жыве Беларусь» и антипрези-

*Взгляд из Лондона*

# Народ сам должен решить судьбу своего тирана

Каждый раз, когда речь заходит о том, что с Саддамом Хусейном «нужно что-то делать», приходишь к неутешительному выводу, что обычных методов воздействия здесь будет явно недостаточно. Президент Саддам неоднократно демонстрировал всему миру, что ни экономические санкции, ни бомбардировки, ни ракетные атаки не заставят его сдаться. Он пережил две опустошительные войны, одна из которых (война с Ираном) стала самой кровопролитной войной XX века. Но все это лишь еще больше упрочило его власть и дало ему повод окончательно расправиться с поддерживаемой Америкой оппозицией и в буквальном смысле обезглавить военные заговоры.

Какие бы заявления ни делало американское правительство в отношении Ирака, у Конгресса США не хватит смелости начать настоящую войну с этой страной. Новые же бомбардировки и наносимые с большого расстояния ракетные удары, имеющие целью уничтожить военные объекты Саддама, а, по возможности, и самого Саддама, вряд ли способны изменить иракскую политику к лучшему. Саддамом движут непомерные амбиции и обостренное чувство самосохранения. Проводимая им политика основывается на национализме и параноидальном невежестве. Фактор личного невежества правителя присущ всем диктаторским режимам. Согласно французским дипломатическим источникам, *«Саддам отличается крайним невежеством. Он совершенно не разбирается в том, что происходит за пределами его страны, а из всех арабских столиц знает лишь Багдад и второразрядный город Тикрит, из которого он родом»*.



*Женщины Ирака готовятся к защите Саддама.*

В политических кругах Вашингтона и Нью-Йорка по-прежнему считают, что США способны «организовать» революцию в Ираке. В Департаменте обороны США разработан план проведения компании по «делегитимизации» Саддама путем международного признания иракского правительства в изгнании, передачи ему всех зарубежных денежных вкладов Ирака и обеспечения широкой поддержки со стороны арабских государств, европейских союзников и Турции.

Народ не получает правительство, которое он заслуживает, автоматически. Оно является прямым продуктом общества, создавшихся в нем политических условий, его геополитического положения и истории. В конце концов, народ сам несет ответственность за правительство, которое он избрал и которое ему теперь приходится терпеть. Ирак — полицейское государство. Но этот полицейский режим не был навязан иракскому народу какой-то иностранной державой извне. Иракский народ сам не пожелал в свое время заплатить необходимую цену, чтобы раз и навсегда избавиться от такого режима. Ни одна иностранная держава не может теперь помочь Ираку. Иракский народ сам должен положить конец правлению Саддама. После Второй мировой войны народы целого ряда стран смогли освободиться от своих диктаторских режимов. Если иракцам не нравится их правительство, они должны восстать против него и свершить настоящую революцию без помощи американцев или кого-нибудь другого.

Фактически нынешнее положение установилось в Ираке сразу после получения им независимости. Иракские монархи, правившие страной, которая с 1921 г. по 1958 г. находилась под британским протекторатом, были не самыми плохими по нынешним меркам правителями. Однако, в 1958 г. в результате военного переворота монархия была свергнута, король, кронпринц и премьер-министр казнены, а англичане изгнаны из страны. Пришедшее к власти военное правительство было в свою очередь свергнуто в 1963 году в результате нового переворота. Снова последовали казни. В 1966 и 1968 гг. состоялись еще два переворота. В результате последнего к власти пришла националистическая партия «Баас». После захвата власти Саддам Хуссейн, бывший одним из активистов партии, занял пост вице-президента, а через десять лет в результате простого перераспределения портфелей этот полуграмотный выходец из многодетной нищей крестьянской семьи, в детстве нередко промышлявший воровством на базарах, стал президентом Ирака. Все эти годы он с кем-нибудь борется: то с колониалистами всего мира, то с соседним Ираном, то со своими собственными курдами, требующими создания независимого государства, то с суверенным Кувейтом. И если раньше все эти вопросы решались мирным путем, то в 1990 году он просто попытался присоединить Кувейт силой.

Саддам несомненно представляет угрозу для международного сообщества, но эта угроза не так уж и велика. Как не велико стратегическое значение его страны. Ирак богат нефтью. Но ее еще нужно продать. Саддам накапливает средства массового поражения, чтобы постоянно держать в страхе своих соседей. Иран и другие арабские страны боятся его. Но все международное сообщество его презирает. Как показывает печальный опыт его предшественников, Саддам не вечен. Но иракскому народу предстоит самому решать, как долго просуществует диктаторский режим и что будет с Ираком после его свержения.

**Вильям ПФАФФ,**
*International Herald Tribune*
*Перевод*
**Владимира АБАНИНА**

# человека в Беларуси

дентские лозунги. Их также обвинили в том, что они сняли на некоторых зданиях города государственные флаги и заменили их бело-красно-белыми флагами независимой Беларуси. Однако несмотря на ненасильственный характер мнимого преступления (как и тот факт, что Лабкович является несовершеннолетним), обоим было отказано в освобождении до судебного разбирательства. Согласно информации, полученной от заслуживающих доверия наблюдателей за соблюдением прав человека, жене Шидловского, Инне Пеменовой, угрожали сотрудники КГБ и заставили ее обвинить видного лидера БНФ в том, что якобы он ее изнасиловал. В противном случае ее предупредили, что она никогда больше не увидит своего мужа в живых. После того, как Пеменова отказалась, ей пригрозили исключением из университета, в котором она училась.

Павел Шеремет и Дмитрий Завадский, граждане Беларуси, работающие на российскую телекомпанию ОРТ, чьи репортажи были критическими в отношении правительства, были задержаны явно по политическим причинам. В июле службы безопасности задержали их вместе с 2 их коллегами и обвинили в попытке незаконного перехода белорусско-литовской границы. Журналисты готовили репортаж о границе. В августе вторая группа ОРТ была задержана по аналогичному обвинению.

Конституция закрепляет принцип независимости судебной власти, но на практике **судебная система зависима** и в большинстве случаев не способна контролировать действия исполнительной власти и ее должностных лиц. В 1995 году Верховный Совет принял ряд законодательных актов, поддерживающих независимость судебной власти, но эти реформы не были проведены в жизнь. Независимость судебной системы не может быть достигнута без крупных структурных реформ. После конституционного референдума, в ноябре 1996 года, судебная власть была еще более подчинена исполнительной путем придания президенту полномочий по назначению 6 из 12 членов Конституционного суда, включая его председателя. Оставшиеся шесть назначаются Советом Республики, который сам состоит из членов, назначенных президентом или избранных лицами, находящимися под влиянием президента. Президент назначает также председателей Конституционного суда, Верховного суда и Высшего хозяйственного суда. Согласно конституции, президент имеет право назначать и смещать судей всех административно-территориальных единиц и военных судей.

**Суды** над задержанными во время весенних антиправительственных выступлений **были поставлены** на поток без права обвиняемых на защиту или возможности представить доказательства или вызвать свидетелей.

**Государственное наблюдение за квартирами и прослушивание телефонов не уменьшилось.** Утверждается, что КГБ без ордера проникает в дома, проводит несанкционированные обыски и перлюстрирует корреспонденцию. Политические, правозащитные и другие неправительственные организации считают, что их **переговоры и корреспонденция находятся под постоянным наблюдением спецслужбы.**

КГБ, МВД и некоторые подразделения пограничных войск имеют право на установку средств прослушивания телефонных разговоров, но они должны предварительно получить разрешение прокурора. Сообщалось, что служба охраны президента, созданная в 1995 году, осуществляла наблюдение за политическими оппонентами президента. Не существует законодательного или судебного надзора над бюджетом или деятельностью службы охраны, и исполнительная власть упорно сопротивляется попыткам установления такого надзора.

**Правительство не делает тайны, что спецслужбы проводят активное наблюдение за оппонентами Лукашенко.** Известно, что милицейские посты, охраняющие иностранные посольства, отмечают визиты лидеров политической оппозиции.

Почти все лидеры политической оппозиции предполагают, что правительство наблюдает за их деятельностью и прослушивает их переговоры. Правительство Лукашенко не опровергает эти предположения. Правительственные чиновники, по-видимому, тоже не освобождены от наблюдения.

Конституция гарантирует свободу слова, а также свободу получать, хранить и распространять информацию, однако правительство на практике ограничивает эти свободы. **Исполнительная власть продолжает подавлять свободу слова** путем принятия декрета, ограничивающего право граждан выражать свое мнение. Несмотря на то, что Конституция запрещает монополию на средства массовой информации, правительство продолжает жестко ограничивать право на свободную прессу, почти монополизировав средства производства и радиовещательные средства национального масштаба, а также отказывая в аккредитации журналистам, настроенным критически в отношении режима. Правительство также осуществляет экономическое давление на независимые СМИ, принуждая рекламодателей отказаться от рекламы и выселяя редакции газет из их офисов. Работникам государственных предприятий не рекомендуется подписываться на независимые издания.

В нескольких случаях весной милиция избивала и задерживала журналистов, освещавших антиправительственные демонстрации. Журналисты также сообщали о нескольких случаях, когда милиция конфисковывала или уничтожала фото- и видеоматериалы.

В октябре двое неизвестных похитили корреспондента независимой газеты «Имя» Олега Бебенина, вывезли его за пределы Минска, где его избивали. Они хотели, чтобы Бебенин перестал писать критические статьи о властях. В ноябре редактор «Имени» получил предупреждение о том, что сатирические коллажи в нескольких номерах газеты оскорбляют президента и газета может быть лишена лицензии. На конец года адвокат «Имени» продолжал обжаловать обвинения, однако газета перестала печатать коллажи из страха перед дальнейшими репрессиями.

В ноябре Государственный комитет по печати вынес два предупреждения крупнейшей независимой газете СВАБОДА, указывая, что несколько статей нарушают закон, подстрекая к общественным беспорядкам. 24 ноября, после пятнадцатиминутных прений, Высший хозяйственный суд вынес решение о закрытии СВАБОДЫ.

В декабре неизвестные напали на режиссера Юрия Хащеватского в его студии. Нападение, вероятнее всего, было ответом на фильм Хащеватского «Обыкновенный президент» — критический, сатирический портрет президента Лукашенко. Правительство запретило фильм. В январе наблюдатели по правам человека сообщили, что после того, как фильм вышел в эфир частной кабельной компании в Гродненской области, милиция вломилась в студию и задержала оператора.



*Минск, 14 февраля 1997 г.* ***Разгон демонстрации.***

В декабре таможенники на белорусско-польской границе конфисковали материалы, фиксировавшие нарушения прав человека, у Виктора Ивашкевича, редактора газеты свободных профсоюзов «Рабочий». Ивашкевич собирался представить эти материалы на пресс-конференции в Варшаве.

*Правительство продолжает* закрывать школы, в которых преподавание ведется на белорусском языке.

В марте президент Лукашенко издал декрет № 5, которым регулируется порядок того, что он назвал «оргией» уличных протестов. Согласно декрету, еще больше ограничившему возможность граждан проводить мирные собрания, местным властям разрешено жестко ограничивать количество участников митингов. Декрет запрещает демонстрацию незарегистрированных флагов и символов, а также плакатов, содержащих угрозы государственному или общественному порядку. Декрет, с последующими поправками, принятыми действующим законодательным органом, устанавливает жесткое наказание тем, кто нарушает закон, в особенности организаторам упомянутых мероприятий. Суды налагали на организаторов штрафы в размере от 800 до 1.000 долларов, которые чрезвычайно высоки для страны со среднемесячной зарплатой до 100 долларов. В случае, когда штраф не был уплачен, власти угрожали конфискацией имущества.

# Бывай, Алімпіяда!

Нядзельным вечарам 22 лютага ў Нагана патух агонь XVIII Зімовых Алімпійскіх гульняў, у якіх прымалі ўдзел каля дзвюх з паловай тысячаў атлетаў з 72 краінаў. Дзякуючы добразычлівасці і гасціннасці японскага народа Гульні прайшлі ў дзіўнай атмасферы шчырасці, добразычлівасці і адзінства людзей усіх кантынентаў, розных расаў і нацыянальнасцяў.

## Гаспадары

Арганізатары Алімпіяды не раз падкрэслівалі, што хацелі б дасягнуць у Нагана трох мэтаў: каб Алімпіяда стала часам перамір'я і спынення ўсіх палітычных канфліктаў і супрацьстаянняў; каб Гульні прайшлі ў гармоніі чалавека і прыроды; нарэшце, прысвяціць Алімпійскае свята дзецям. Усе тры задачы былі вырашаныя найлепшым чынам. А прадбачлівасць і пунктуальнасць японцаў забяспечылі высокі арганізацыйны ўзровень, не гаворачы ўжо пра тэхнічны. Між тым, праблемы, і немалыя, былі, але толькі кліматычныя. З-за вялікіх снегападаў некалькі разоў пераносіліся спаборніцтвы па горналыжным спорце, якія ўсё ж удалося правесці ў нячастыя ясныя дні дзякуючы самаадданай працы японскіх салдатаў і валанцёраў. На жаль, аднойчы з-за капрызаў надвор'я пацярпелі беларусы. Падчас спрынтэрскай гонкі біятланістаў снегапад павялічыўся настолькі, што прыйшлося спыніць спаборніцтвы, ануляваць вынікі спартсменаў і перанесці гонку на наступны дзень. А сярод лідэраў быў наш Аляксандр Папоў. Назаўтра нашыя хлопцы былі непазнавальныя...

## Алімпіёнікі

Так старажытныя грэкі называлі алімпійскіх чэмпіёнаў. У Нагана на вышэйшую ступень гонаровага п'едэстала падымаліся спартсмены 15-ці краінаў. Часцей за ўсіх — тройчы — гэтага права дабіваліся лыжнікі — 32-гадовая расіянка **Ларыса Лазуціна** і 30-гадовы нарвежац **Б'ёрн Дэлі**. Лазуціна заваявала таксама сярэбраную і бронзавую ўзнагароды, Дэлі — сярэбраную. Двойчы чэмпіёнамі сталі галандскія канькабежцы Джані Ромэ і Марыанэ Цімер, гарналыжнікі Каця Зайцынгер з Германіі і Херман Майер з Аўстрыі, японскі скакун з трампліна Кацуёшы Фунакі, нарвежскі дваяборац Б'яртэ-Энген Вік, расійская лыжніца Вольга Данілава і яе нарвежскі калега Томас Альсгорд.

Уразілі доўгагадовым майстэрствам германскі саначнік **Георг Хакль** і гарналыжніца з Італіі **Дэбора Кампаньоні**. Яны перамаглі на трэцяй Алімпіядзе запар. Такога ж поспеху дасягнуў і вышэйузгаданы Б'ёрн Дэлі, якому цяпер належыць абсалютны рэкорд Зімовых Алімпіяд — 8 залатых і 4 сярэбраныя медалі.



*На здымку: эпізод матча Беларусь—Швецыя.*

8 сусветных рэкордаў абнавілі канькабежцы. Самым знакамітым агульнапрызнана дасягненне **Джані Ромэ** ў бегу на 10.000 метраў, дзе яму ўдалося палепшыць папярэдні рэкорд больш чым на 15 секундаў — 13 хвілінаў 15,33 сек.

## Ці збыліся мары беларусаў?

Мы вельмі спадзяваліся на тое, што беларускім алімпійцам удасца заваяваць медалі. Хаця ўпэўненасці ў гэтым не было. Прыярытэт аддаваўся біятланістам і фрыстайлістам. У выніку і тыя, і другія чаканні апраўдалі: страляючы лыжнік **Аляксей Айдараў** і лыжны акрабат **Дзмітрый Дашчынскі** сталі бронзавымі медалістамі.

У Лілехамеры-94 у нашай каманды было два «срэбры». Фармальна — цяперашняе выступленне — крок назад. Але з пункту гледжання здаровага сэнсу беларуская каманда выступіла не толькі не горш, але нават лепш, чым 4 гады таму. Тады алімпійскімі лаўрэатамі сталі канькабежац Ігар Жалязоўскі і біятланістка Святлана Парамыгіна, якія не раз перамагалі на чэмпіянатах свету ў складзе зборнай СССР. Ды і выраслі яны на саюзных базах пад кіраўніцтвам саюзных трэнераў. Айдараў жа і Дашчынскі як спартсмены міжнароднага класа сфарміраваліся ў суверэнныя гады пад кіраўніцтвам дамарослых спецыялістаў.

Далей. Тады ўсе месцы ў дзесятках лепшых належалі Жалязоўскаму і біятланістам. Цяпер, акрамя прызёраў, высокіх вынікаў дасягнулі квартэт біятланістаў у эстафеце 4 х 7,5 км (**Айдараў, Рыжанкоў, Папоў, Сашурын**) — 4-е месца (такое ж было і ў Лілехамеры), лыжны акрабат **Аляксей Грышын** — 8-е, біятланіст **Алег Рыжанкоў** — 9-е, лыжніца **Алена Сінькевіч** — 12-е (самы вялікі наш поспех у лыжных гонках). Годна выглядала ў Нагана канькабежка **Анжэліка Kaцюга**, якая заняла з нацыянальным рэкордам у бегу на 500 м 16-е месца сярод амаль 40 удзельніцаў. І галоўнае — у нас з'явілася моцная хакейная зборная, якая даказала сваю прыстойнасць у бітвах з лепшымі камандамі свету. Гэта значыць дыяпазон відаў, дзе ў нас з'явіліся спартсмены міжнароднага ўзроўню, павялічыўся.

Іншая справа, што не ўсіх удалося вывесці на пік максімальнай гатоўнасці. Скажам, ад біятланістаў чакалі большага, у прыватнасці, ад Святланы Парамыгінай (12-е месца), і ўжо названай эстафетнай чацвёркі. Здавалася, што і лыжнікі здольныя падняцца вышэй, асабліва ў мужчынскай эстафеце 4 х 10 км (14-е месца).

**Вынікі Алімпіяды**
**Размеркаванне медалёў**

| | З | С | Б | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. Германія | 12 | 9 | 8 | 29 |
| 2. Наргвегія | 10 | 10 | 5 | 25 |
| 3. Расія | 9 | 6 | 3 | 18 |
| 4. Канада | 6 | 5 | 4 | 15 |
| 5. ЗША | 6 | 3 | 4 | 13 |
| 6. Галандыя | 5 | 4 | 2 | 11 |
| 7. Японія | 5 | 1 | 4 | 10 |
| 8. Аўстрыя | 3 | 5 | 9 | 17 |
| 9. Паўднёвая Карэя | 3 | 1 | 2 | 6 |
| 10. Італія | 2 | 6 | 2 | 10 |
| 11. Фінляндыя | 2 | 4 | 6 | 12 |
| 12. Швейцарыя | 2 | 2 | 3 | 7 |
| 13. Францыя | 2 | 1 | 5 | 8 |
| 14. Чэхія | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 15. Балгарыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 16. Кітай | 0 | 6 | 2 | 8 |
| 17. Швецыя | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 18. Украіна | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 19. Данія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 20. Казахстан | 0 | 0 | 2 | 2 |
| **21. Беларусь** | **0** | **0** | **2** | **2** |
| 22. Вялікабрытанія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 23. Бельгія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 24. Аўстралія | 0 | 0 | 1 | 1 |

Год таму на чэмпіянаце свету яны былі сёмымі.

Ацэньваючы выступленні нашых спартсменаў на Зімовай Алімпіядзе ў Нагана, трэба мець на ўвазе, што па кліматычных умовах Беларусь ужо далёка не зімовая краіна. У адрозненне ад многіх еўрапейскіх дзяржаваў, у нас няма гор, дзе снег ляжыць нават тады, калі на раўнінах ён тае. Па гэтай прычыне рыхтаваць майстроў высокага класа прыходзіцца за мяжой, а гэта каштуе вялікіх грошай. Зразумела, што туды вывозяць невялікія групы спартсменаў, што аўтаматычна прадугледжвае адсутнасць канкурэнцыі за месцы ў зборных камандах, без чаго прагрэсіраваць у спорце вельмі цяжка. З-за адсутнасці сродкаў вельмі абмежаваная і колькасць спаборніцтваў, у якіх удасканальваецца майстэрства, набываюцца вопыт і псіхалагічная ўстойлівасць. Па гэтай жа прычыне інвентар і экіпіроўка нашых «зімнікаў» нярэдка не адпавядаюць міжнародным стандартам. Таму адказнасць за вынікі на працягу многіх гадоў нясуць адны і тыя ж людзі — **Парамыгіна, Папоў, Сашурын, Рыжанкоў, Сінькевіч**. Хтосьці ўжо прайшоў пік сваёй кар'еры, у кагосьці праблемы са здароўем, а раўнацэннай замены няма.

Падагульняючы сказанае, трэба станоўча ацаніць вынікі беларускай каманды ў цэлым. У той жа час нельга не заўважыць, што колькасны склад каманды (62 спартсмены) быў занадта раздуты. Турбуючыся аб прэстыжы дзяржавы, відаць, не трэба было везці ў Нагана тых, хто быў ужо асуджаны займаць перадапошнія і апошнія месцы, нават калі гэтыя спартсмены заваявалі алімпійскія ліцэнзіі і іх паездку на Гульні аплачвалі арганізатары. Колькасць атлетаў можна было скараціць на трэць. Адпаведна паменшылася б і колькасць абслугоўваючага персаналу, выезд якога фінансаваўся з кішэняў падаткаплацельшчыкаў.

Думаецца, у будучым для Беларусі больш перспектыўнае развіццё «зальных» відаў зімовага спорту, такіх, як хакей, фігурнае катанне, шорт-трэк (які пакуль у нас не культывуецца), якія не залежаць ад прыродных катаклізмаў. Для гэтага трэба будаваць крытыя каткі, прычым не толькі ў Мінску і абласных цэнтрах. Але ці вытрымае рашэнне гэтай праблемы наш бюджэт, з якога, нагадаем, выплачваецца зарплата настаўнікам, урачам, дзяржслужачым і пенсіі — пенсіянерам?

**Сямён ПЛОЦ**

# Даты і лёсы

## *24 лютага*

**1887.** Пачала дзейнічаць першая міжгародняя тэлефонная лінія, што злучыла Парыж і Брусель.

**1938.** У ЗША з'явіліся ў продажы першыя зубныя шчоткі з нейлонавым шчаціннем, а роўна праз год — першыя нейлонавыя панчохі.

**1983.** У нью-ёркскім гатэлі памёр вядомы драматург, аўтар п'ес «Шкляны звярынец» і «Трамвай «Жаданне» Тэнесі Ўільямс. 72-гадовы пісьменнік быў хворы, хацеў уначы прыняць таблетку, але замест яе кінуў у рот затычку ад мікстуры і задыхнуўся. Маёмасць Ўільямса (10 млн. долараў) атрымаў у спадчыну Гарвардскі універсітэт.

**1983.** У Мексіцы ўзняўся ў паветра на самалёце «Сесна-150» самы малады ў гісторыі пілот Кодзі Лок, якому тады было трохі менш за 10 гадоў.

**1988.** Знакаміты спявак Лучана Паварoцi паставіў рэкорд па колькасці выхадаў на біс. Пасля выканання оперы Даніцэці «Любоўны напой» заслона Нямецкага опернага тэатра ў Заходнім Берліне ўзнімалася 165 разоў, а апладысменты доўжыліся 67 хвілінаў.

**1990.** На выбарах у Вярхоўны Сáвет Літвы камуністы атрымалі толькі 7 дэпутацкіх мандатаў з 90. Большасць месцаў заваяваў «Саюдзіс» на чале з В.Ландсбергісам.

## *25 лютага*

**1862.** Падчас грамадзянскай вайны ў ЗША прэзідэнт Лінкальн увёў у абарачэнне банкноты — *greenbacks* (зялёныя папяровыя долары — «баксы» ці «грыны», як іх часам называюць).

**1918.** Германскія войскі ўступілі ў Мінск і Полацк.

**1948.** У Чэхаславакіі, якой кіраваў кааліцыйны ўрад, камуністы ўчынілі ўзброены захоп улады. За кулісамі перавароту стаяў СССР, які не жадаў далучэння Чэхаславакіі да «плана Маршала».

**1972.** Савецкая аўтаматычная станцыя «Луна-20» даставіла на Зямлю ўзоры месячнага грунту.

**1991.** Прадстаўнікі СССР ды іншых краінаў-удзельніцаў Варшаўскага Дагавора прынялі ў Будапешце рашэнне аб роспуску гэтага ваеннага блока.

## *26 лютага*

**1808.** Нарадзіўся вядомы французскі мастак, аўтар 4.000 літаграфіяў і мноства палітычных карыкатураў Анарэ Дам'е. За адну з лепшых карыкатураў на караля мастак па асабістым загадзе Луі-Філіпа быў кінуты за краты.

**1932.** Выйшаў першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва» («ЛіМ»).

**1936.** Гітлер загадаў запусціць у вытворчасць танны «народны аўтамабіль» (*Volkswagen*), спраектаваны Фердынандам Паршэ. Машыну можна было набыць у крэдыт, выплачваючы па 5 марак у тыдзень.

**1952.** Падчас выступу ў парламенце Чэрчыль абвесціў, што Вялікабрытанія стварыла ўласную атамную бомбу.

**1988.** 84-гадовы малайскі знахар Пак Аванг, які спецыялізаваўся на магіі кахання, ажаніўся 80-ы раз. Амаль усе папярэднія шлюбы аказаліся няўдалыя.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**



## ЗДАРЭННІ

### *Бабруйск*

Найбуйнейшая на Магілёўшчыне партыя гарэлкавага сурагату з пачатку года сканфіскавана ў Бабруйску. Супрацоўнікі Першамайскага РАУС Бабруйска знайшлі яе пры даглядзе аўтамашыны, што выязджала з горада. Колькасць фальсіфіцыраванай гарэлкі склала 1,5 тыс. бутэлек.

*БелаПАН*

### *Гомель*

Днямі невядомая жанчына ўвайшла ў кабінет інспектаркі аддзела сацыяльнага забеспячэння Савецкага райвыканкама горада Гомеля і пасля кароткай размовы ўсадзіла ёй нож у спіну.

Нападаўшая знікла з месца здарэння, аднак работнікі аддзела здолелі намаляваць яе фотаробат, што павінна дапамагчы следству адшукаць злачынцу. Падазраецца, што напад учыніла нядаўна звольненая з «Гомсельмаша» неўраўнаважаная асоба ва ўзросце каля 50 гадоў, якая апошні месяц абівала парогі райсабеса і дамагалася дапамогі на дзяцей для сваёй беспрацоўнай сястры.

Стан здароўя пацярпелай здавальняючы.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

### *Орша*

Невядомымі асобамі ўдзень 15 лютага быў абрабаваны офіс аддзялення Таварыства беларускай мовы ў Оршы. Злодзеі вынеслі ўсю аргтэхніку — камп'ютэр, мадэм, прынтэр, факс, тэлефон. На гэтай базе выдавалася мясцовая дэмакратычная газета «Куцейна». Агульны памер урону складае больш за 300 мільёнаў рублёў.

**Алесь ШУТАЎ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1155 Нумар падпісаны ў друк 19.02.98 (15:00) Наклад — 12.750